УЛАДЗІМІР
КАРЫЗНА

# ЦІШЫНЯ БАРАЗНЫ

Вершы і паэма

Мінск
«Мастацкая літаратура»
1981

* * *

*Нарадзіўся я ў краі,*
*Дарагім нам бясконца,*
*Дзе ў калысцы азёрнай*
*Прачынаецца сонца,*

*Дзе з барознаў, як птушкі,*
*Каласы ўзлятаюць*
*І ў касмічных вышынях*
*Землякоў выглядаюць.*

*Нарадзіўся я ў краі,*
*Дзе і летам гарачым*
*На узгорках і плошчах*
*З болем полымя бачым,*

*Дзе лясы несціхана*
*Ўсё шумяць успамінам*
*Аб гадах партызанскіх*
*Найвялікшай Айчыннай.*

# ВЯСНА ЛЕНІНА

Бярозы
          ў зелені лёгкай.
Вясновае сэрцабіццё.
Ленін —
          не проста эпоха,
Ленін —
          жыццё

З садамі ў ранетах
І з птушкамі,
Якімі заслухалася вясна,
Ленін —
          гэта лёс планеты
І лёс наш,

Лёс, дзе сонца сваё
                              і крыніцы,
Лугі
І бары,
Што на золку прыпалі напіцца
Да возера зары.

Гэта —
          жыццё,
                    дараванае лёсам,
І лёс,
Дараваны жыццём,
Дзе дыміцца
Не порах злосны,
А ў час красавання жытцо.

Леніна праўда ясна̀,
Яна чыстая,
як першацвет.
Гэта —
вясна-красна
На ўвесь свет!

## ЖЫТНІ КОЛАС

Толькі цяпер зразумеў
Як належыць,
Як ад цябе, колас,
Многа залежыць.

Нізка ты рос
Пасля цяжкай Айчыннай,—
І над табою
Згіналі мы спіны.

Стаў ты вышэй
Над зямлёй уздымацца,—
Сталі і мы
Дзень за днём разгінацца:

Вось мы ўжо бачым
Не толькі зямлянкі —
Новыя хаты,
А ў іх — пагулянкі.

Бачым, як спеюць
У садзе ранеты.
Сёння ўжо бачым
Ля зорак ракеты.

# КАРЭНІ БОЛЮ

(п а э м а)

Яшчэ здалёк,
З Калюжнае гары,
Відаць:
У завадзь ціхую зары
Дым з комінаў
Заспана вылятае...

Ужо і маці
Недзека
Устала,
У печы нетаропка падпаліла
І на адну сябе
Бліноў разбіла...

Шуміць ручай,
Дзе некалі рака бурліла.
Чую песню жаўрука...

Траву скасілі.
Пахаджае бусел...

Я ў гэты край
Заўсёды прадзяўбуся
З любой дарогі —
Ўзімку і вясной,
Ён, як далонь,
Дзе ўсё перада мной!

Крануўся сэрца
Аляксандраў сад —
Пасля вайны
Яму быў кожны рад:

Адзіны сад,
Што не згарэў, застаўся,
Хоць гаспадар
Не дужа раскідаўся,
Ды ўсё ж...

А вось і залатое
Поле тое,
Дзе некалі
З Андрэішыным Толем
Мы падбіралі
Каласы ў сухмень,
А ў роце
Ні расінкі цэлы дзень.
Крупамі ўвечар
Поўнілася ступа —
Цяжкі, як слон,
Таўкач там шчыра тупаў...

Сягоння
Гэта поле не пазнаць:
З трох цэнтнераў
Зайшло
                на трыццаць пяць!

І я іду па ім
Сцяжынкай светлай.
Вось Федзя з саду
Усміхнуўся ветла...

Яго запомніў я

Пасля вайны.
Ад нашага сяла
Вуглі адны,
І нешта не прыходзілі

Мужчыны
З глухой далечыні
Вайны Айчыннай.

І раптам,
Нібы хвалі ў берагі:
— Вярнуўся Федзя з фронту,
Без нагі...

Каменьчыкамі
З пругкае рукі
Ляцелі мы,
Каб паглядзець які!

І ён над намі ўсімі
Цараваў,
Ён жонку
Неадрыўна цалаваў —

Навальваюцца так
На хлеб аднойчы,
Які шмат год
Не бачылі і ў вочы.

Мы разумелі:
Жонку ён кахаў,
Ды хай бы трошкі
Нас пашкадаваў,—
Перадалося.

— Любая дзятва,
Галоўнае,
Ёсць рукі,
Галава...—
Сказаў
І нізенька да нас сагнуўся,

Заплакаў,
Неяк дзіўна здрыгануўся,
Пацалаваў
З нас кожнага ўзахлёб,
Бы кацянят,
Сабе на грудзі згроб...

А што было далей —
Не помню сёння:
Усё нібы ў тумане,
Як спрасоння,

Але, я помню,
Хтосьці быў прынёс
Гармонік,
Бо і так хапала слёз,

Бо, ведама ж, не толькі
Ад сустрэчы
Тут плакалі:
Не вернецца ўжо нечы...
І дзядзька Федзя
Абудзіў лады,
Прабеглі
Пальцы ўміг
Туды — сюды

І гэтакую польку
Зарадзілі,
Што ногі
Самі мігам
захадзілі.

І хтосьці сыпануў
Прыпевак жару

І ў пыл нырнуў,
Як у якую хмару.

А дзядзька граў
І пышным чубам трос.
Здавалася,
Пратруць зямлю наскрозь...

Прынесла полька
Людзям абнаўленне,
Дала на міг
Ад горкіх дум збавенне.

(Ты гэтага,
Скажы,
Не перажыў, чытач?
Што, перажыў?
Тады ты мне прабач.)

Не здыхаюцца,
Быццам дзень касілі.
Але адразу
Песню папрасілі.

Задумаўся.
— Якую ж?
— Пра байца.

Запелі, як «прастілася
На ступеньках крыльца...».

Стаяў зачараваны я,
Паверце,
Як бы што абарвалася
У сэрцы!

І гэтая сустрэча
Ля варот,
І гэты нечаканы
Паварот
Ад слёз да музыкі,
Пагоны, медалі,
Дзе бляск і пыл
З дарог усёй зямлі,
Душэўнае цяпло,
Яшчэ настрой музыкі,
Жаночы плач
І радасныя ўскрыкі
Кранулі моцна
Ўсе мае лады.

Я закахаўся
Ў музыку тады...

А дзядзька Федзя
Весяліўся мала,
Сустрэчы хваля
Вельмі хутка спала.
Ён пад пілу,
Тапор
Адразу стаў,
Бо нарабіў фашыст
Нямала «спраў»...

Распушчаная надвая
Пілою,
Сасна так смачна пахла
Не смалою,
Здавалася,
А хлебам —
Што карысці?
Ды і яе

Гатовы быў я грызці,
Бо прысыхаў жывот
Аж да спіны.
А поле...
Поле мёртвае
з вайны...

А сілкаваліся
Ля тапароў мужчыны —
О як тады
Мы блінкалі вачыма!

І Федзя з'есці скварку
Сам не мог,
Дзяліў яе на двох
Або на трох...

Дык і не дзіва,
Што яго любілі,
Калі прыйшлося б —
На руках насілі!

Яго і сёння
Шчыра я люблю,
Як родны край,
Як шчодрую зямлю!

Ды развітацца
З ім пакуль патрэбна,
Бо прачакалася
Мяне ўжо грэбля.

А грэбля непрыкметна
Прывяла
Да сосен на пагорку...

Ля сяла.
Тут болю шмат.
Ля саменькага поля
І бацькава
Нярадасная доля.

Дзіўлюся,
Хтосьці
Вельмі ўжо цвярозы
Аж да магіл
Падвёў
Сюды
Барозны.

Няўжо з-за жменькі
Лішняй
Тых зярнят?

Фантазіі ў людзей
Тутэйшых
Шмат,—
Мо хтосьці і такое
Мог даўмецца:
Не памірайце,
Там
Няма ўжо месца...

А вось кагосьці,
Пэўна, у грахах,
Паклалі галавою
У нагах.
Так, усё праўда:

Меў ён нораў юды,
І на тым свеце
Б'юць яму у зубы...

Я пакідаю
Гэты ціхі шум,
Бо пухне галава
Ад розных дум,

Па цёплым пыле
Роднай вёскай крочу,
Мне з усяго
Глядзяць маленства вочы!

О як бярозка
Тая падрасла,
Дзе вусны апякла
Мая вясна

І дзе адчуў я
Радасныя крыллі,
Што далягляд спакусны
Мне адкрылі!

. . . . . . . . .

А тут калісьці быў
Равінскіх ток.
Прайшоў па сэрцы
Успамінаў ток,

Кроў загарэлася,
І перасохла ў горле:
Фашысты дзесьці тут
Былі прыпёрлі —
Ды й моцна! —
Бацьку разам з Васілём.
Няхай бы ж ноччу,
А то ясным днём,—

Дзяваццa няма дзе,
Хоць праваліся.

Ужо «гер, гер, партызан»
Хітрым лісам
Пранеслася.

Фашысты, як віхор,
Шугнулі,
Дзверы выбіўшы,
У двор,

Імгненна паабскоквалі
Ўсе соткі,
Застаўся ток
Дашчаны, невысокі,

На шчылінах увесь
Па кругавой,
У кожную
Пралезеш з галавой.

Туды ніхаюць
Фрыцы аўтаматы,
Вачыма шнырадь,
Шнырадь супастаты,
Ды не знаходзяць.
Скуры там ляжаць,
Пад імі партызанаў не відаць:
Зашыліся
У сена,
Без дыхання.
Ад пацярухі
Ў носе казытанне.
Ледзь толькі
Папярхніся,
Кашляні —
Ды тут жа
Спапяляць ця[illegible]

Аж ледзяныя мурашы
Па целе.

Жыццё ўсё
За секунды праляцела:
Сірочы, горкі лёс.
У сем гадоў
На ім зямля была,
Трымаўся дом.

Вось тут,
Зусім жа побач, ля чаромхі,
Баранаваў ён.
Ну, і конь пастронкі
Пераступіў быў,—
Ён і тузануў,
А барану
Раней перавярнуў,—

Конь стомлены, галодны
Захістаўся,
Асеў на барану...
І не падняўся,

Забіў нагамі,
Заіржаў ад болю...

Суседзі пазбягаліся
На поле:

— Што?
— Як?
— Чаму?
— Калі?
— Ды толькі...
Вось...

А ён душыўся
Ад пякучых слёз...

Зусім яшчэ малы,
Ў кашулі зрэбнай,
За шыю
Абнімаў каня:
— Не трэба,
Не памірай,
Браток мой,
Пачакай...

Ледзь адцягнулі.
Сэрцам прыгарнулі.
— Чорт з ім,
З канём,
Што зробіш?
Не вярнулі б
Яго,
Калі б і свет
Перавярнулі.
Бывае ж і не гэткая бяда!
А гэта —
Эт,
Бяда, нібы вада,—
Сплыве.

Хоць кожны
Добра разумеў:
Каб так яму,
Дык з гора б анямеў...

Таму і грошай
Хуценька сабралі
І добрую кабылку
Падабралі...

Успомніў бацька
Горкія гады,
Ды зараз
Трошкі горай, чым тады,

Такі фашысты
Камень узвалілі,
Што не дыхнуць,—

Ды вось загаманілі
І раптам
Як задалі лататы!

Шчаслівым, тата,
Нарадзіўся ты...

. . . . . . . . .

Ну, што ж, чытач,
Ці пойдзеш ты далей
Са мною
Днём гарачым па сяле?

Ці, можа, ты
Зусім ужо засопся,
Стаміўся, нібы ў градах
Баба Зося,

Захочаш на мяне
Махнуць рукой,
Бо даражэй
Табе за ўсё спакой?

Згаджаешся ісці?
Табе цікава?
Тады глядзі:
Пры выгане,

Направа,
Пад шыферам
Стаіць прыгожы дом.

Здаўна
Знаёмы я з гаспадаром.

Ці помніш, дзядзька,
Як, малакасос,
Я падаваў снапы
Табе на воз?

Яшчэ ледзь толькі
Ад зямлі адскочыў,
Але тры класы
Спраўна ўжо я скончыў
І вілы ўзяў...

Снапочкі вы, снапы,
Вазілі вас адразу ж пад цапы!

Як напакуеш воз —
І дух вон з цела.

Ды ехаць з дзядзькам
Дужа мне карцела,
Хоць нейкі ён
Такі на выгляд быў,
Як быццам бы
Нікога не любіў.

Абойму слоў
Стральне скорагаворкай
І зморшчыцца,
Нібы ад рускай горкай,

І, здасца, замаўчыць
На ўсё жыццё.

Падманнае ўсё ж
Гэта пачуццё.
Ён разгаворыцца,
Калі ты з ім праўдзівы,
Сваёй душы
Табе адкрые дзівы.

— Вучыся,
Бо галоўнае ў жыцці,—
Ён гаварыў,—
Не ўлегцы каб ісці.
Я, праўда, чуў,
Што хваляць цябе ў школе,—
Ідзі вышэй,
Не забывай ніколі,
Што, дарагі мой дружа,
Чалавек
Тым і цікавы,
Што увесь свой век
Працуе,
Покуль сыдзе ў дамавіну,
Каб па сабе
Хоць кольвек-што пакінуць —
Няхай бярозку,
Хату
Ці ўспамін
Прыемны,
як вясновых дзён язмін...
А праз гады
Прасіў ён:
Пачытай
Мне вершы пра любоў,

Пра родны край.
(І сам ён ведаў
З Коласа, з Купалы,—
Ад іх ніколі
Вочы не зліпалі.)

Я вершы
Багдановіча чытаў
І неўпрыкмет
Радок свой устаўляў.

Ён быў узбуджаны,
Усхваляваны.
І раптам:
— Ну, а хто ж
Той Пытляваны?
З чыёй да нас
Прыйшоў ён галавы?

— Ёсць «Пяюць жаўранкі»
Ў Кандрата Крапівы,
Дык ён адтуль.

А дзядзька сумняваўся
І пераможным смехам усміхаўся:
— Ён Коласаў.
— Не.
— Ну, тады Купалаў.

Я дзядзьку шкадаваў,
Што знаў ён мала,
Што кніг ніколі ў рукі
Ён не браў,
Бо і без іх
Яму хапала спраў:
Вайну прайшоў,

Імя сваё праславіў,
На папялішчы
Дом сабе паставіў,
А дзеткі... гаспадарка,
Ды нарэшце
На ўсё адзін
Ніяк не разарвешся.

Ён наступаў:
— Душою не крыві:
Чый Пытляваны?
— Чый жа,—
Крапівы.
Мо паспрачаемся?
— Давай, але на што?
— Ды на цукеркі.
— Шмат?
— На грамаў сто.

Я толькі год праз дзесяць
Здагадаўся,
Чаму са мною
Дзядзька паспрачаўся...

. . . . . . . . .

А вунь ідзе
Мікола Макашоў.
Жыццё пражыў,
А жонкі не знайшоў.

Калісьці, можа,
Здрадзіла дзяўчына,
Магчыма, ёсць
І іншая прычына,
Хто яго ведае?..

Як ты, жыццё, цікава
Ў сваіх праявах.

Вунь, глядзіце,
Павал —
Як грыб-смарчок
Ля маладой сасонкі,
Ужо ля трэцяй
Круціцца ён жонкі,
Ды ладзяць з ім,
Аж смех,
І тыя дзве.

Ой, ліха
Тваёй, дзеду, галаве!
. . . . . . . . . .

Хінуся ўсёй душой
Да цёткі Марці.
З дзяцінства ля яе мы,
Як ля маці:
То яблычкаў,
Бывала, дасць,
З гары
Кілбаскі прынясе:
— Бяры, бяры, —
Запэўніць тых,
Хто дужа сарамлівы...

Стаіць яна вунь
Ля чырвонай слівы
І белая ж уся,
Нібы вясна.

У сэрцы болем
Даўняя вайна:

Сваё дзіцятка ў лесе
Ў час блакады
Згубіла, уцякаючы ад здрады.
Падлюга
З аўтамата
Па ёй біў —
Гром аглушыў яе
І асляпіў.

Ляцела
Каля елачак,
Бы птушка,
Не чула,
Як заплакала
Дачушка.

Не чула
І не бачыла —
Згубіла.
А ўбачыла:
— Дзе ж Мілачка,
Дзе Міла?!

Згубіла...
Ой, згубіла...
Міла!
Міла!

О колькі яна потым
Пахадзіла!

І сцежку,
Якой бегла,
Цалавала,
І бога
На падмогу
Зазывала,—

Згубіла,
Ад бяды не ўберагла...
У сэрцы маці вечны боль, імгла.

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

— Дзень добры, Янка!
— Ой, здароў, здароў!
З якіх аэрадромаў ці бароў?
— Я са сваіх.
Ну як тут жывяце?

— Не пуста,
Слава богу, ў жываце,—
Адна бяда,
Што нейкі крыхабор
Кароўнік на сядзібы нам успёр,

Дык мух улетку,
Як гразішчы ўвосень,
І вецер пах
Не дужа добры носіць.

— Чаго ж маўчалі,
Покуль не мычалі
Кароўкі?
Хай бы ж
Слоўца напісалі!

— Ат, нам лягчэй
Рыдлёўкай, малатком,
Чым языком,
І часу не хапае
Тут ніколі:

Работа паўсядзённая
На полі,
А яшчэ дома...

Праўда, напісаць
Раз давялося.
Асушалі гаць
І доўга ўсё закладвалі дрэнаж —
Ой, дарагі!
Каб «нарасціць» метраж —
І горку
Каля кузні «асушылі».
Тады пісьмо
Мы ўсім сялом злажылі.

— І што?
— Сюды прыехаў
Лысы нейкі
І кажа:
— Не шуміце з-за капейкі...
— І вы маўчыце?
— Так, а што рабіць?
— Ну, значыць, вам
Нікому не баліць!
— Чаму ж?
Ого ў нас паніка якая,
Як лётчык
З хімікатамі лятае
І над садамі
Іх не выключае!

— Ты скажаш,
І бярэзнічак прыбралі?
— А як жа...
Колькі ягад мы там бралі!
— Там рос стасіл
І добра нас лячыў.
— А зараз тоне
Ў пыле далячынь...

— Канечне, Янка,
Ты тут перабольшыў.
Ты пракруціў мне
Бок пласцінкі горшы.

А хлеб вы едзяце
За дзве шчакі,
Вясной на сонцы
Сохнуць кумпякі...
Ты на сваю глянь школьніцу,
На Соню:
Ўжо імпартныя джынсы
(Больш за сотню!),
Гадзіннічак,
Напэўна, залаты?

А ў чым, скажы,
Хадзіў у школу ты?

Вось ты — ударнік,
Нашых дзён сумленне...
Не, пачакай,
Яшчэ ты — член праўлення,

Ты — гаспадар,
Усё тваё вакол:
І лес,
І неба,
І вось гэты дол...
Што, лётчык
Не садзіцца на зямлю?
Або з аборай: што хачу — раблю?

Ці з тым жа
Дрэнажом

Або жэньшэнем?..
А ты вось
Фігу носіш у кішэні.

У вас тут тэлефон
У кожнай хаце,
Дык пазваніў бы
Старшыні, мой браце...

Ну што, чытач,
Ці ж я не так сказаў?
Душой хінуцца трэба
Да ўсіх спраў.

. . . . . . . . .

Дзе нарадзіўся —
Да магілы
Мілы
Там нават куст,
Прывялы і пахілы,

Ясней там неба,
Колеры званчэй,
І ручаі
І жаўрукі ярчэй!

І сёння ўспамінаеш
Ты, шчаслівы,
Як Рэпа цябе
Спорвала са слівы,

Як ты марозны
Аблізнуў слясак,
А потым бег
Да мацеркі ў слязах.

Папружка... І дубец...
І слоўцаў гукі
Стараліся
Дзеля тваёй навукі!

О, землякі,
Я б сёння вас абняў,
Ды многія ў карэннях
Дрэў і траў.

Чаму ж так у жыцці
Несправядліва,
Што добрага
Хутчэй бярэ магіла,
А як халера нейкая —
Жыве.

Такі, на жаль,
І ў нашым ёсць сяле.

Яго я ўспомніў —
Лопнулі праблемы:
Абора тая
І дрэнаж той, «левы»,
Гаёк,
Якому стукнулі ў каршэнь,
Гаёк,
Які ля сэрца грэў жэньшэнь,—

Усё гэта адразу
Так здрабнела,
Адсунулася ўбок
І змізарнела.

І я адчуў,
Здаецца, ўсім сабой,

Як выскачыў з дзвярэй
У нас прабой,
Мяцеліца ў сон цёплы
Заляцела,
А з ёю разам
Немцы звар'яцела:

— Дзе гаспадар?
Чаму не дома ён?
— Яго забралі
Ужо колькі дзён.
— Хто?! —
Рыжы немец
Аж зайшоўся матам,
На маці замахнуўся
Аўтаматам.—
Што, ўздумаў
Партызанам памагаць?
За сувязь мы пакажам,
Тваю маць!

— Якая сувязь?
Мо ў жывых няма ўжо?

Патронам грозна
Папярхнуўся маўзер.

— Ну што вы,
Пашкадуйце хоць дзяцей!
Скажы ім —
Ты ж сусед,
Ты свой, Мацей!..

— Які я свой?
Саваячка вам — магіла.
— Мацей,

Часова
За табою сіла,
Апомніся,
Не смей так гаварыць!
Я знаю,
З-за цябе ўвесь свет гарыць.
Людзьмі ўсе на зямлі
Мы быць павінны.

Ну, чым,
скажы ты,
Дзеткі мае вінны?

— Іх бацька — партызан,
І не па мне,
Што ён супроць
Улады новай гне...

— Страляць яе
І змеянят таксама!

— Ідзі, сынок,
На ручкі.
— Мама!
Мама!
— Не плачце, дзеткі,
Дзетачкі мае,
Крывіначкі
І ягадкі мае...
І рыжы ўжо
Страляць нас зараз будзе,
Ды тут як скочу
Я яму на грудзі:

— Ой, дзядзечка міленькі,
Не страляй,

Хутчэй ты, мамка,
З хаты уцякай
Або давай схаваемся пад ложак...

Крануў я гада
За жывое, можа,
Бо маўзер ён
За пазуху схаваў.
— Пайшлі адсюль,—
Як камандзір
Сказаў.

Мацей уставіў:
— Я прыйду аднойчы.

. . . . . . . . . .

Скажы,
Як сёння нам
Глядзіш ты ў вочы?

. . . . . . . . .

З-за нас тады
Не спала паўсяла:
Трывога ўсіх
На ногі падняла.

А ты ці спаў?
Наўрад ці сон мог лезці?
Бо нас не здолеў
Ты са свету звесці.

Прайшла бяда,
Запрог каня нам Косця,
На ўсю вайну паехалі
Мы ў госці

Да сосен партызанскіх,
Да бяроз
І да ваўкоў
(У саменькі мароз!),

Да голаду і страху,
Да блакады...

А ты адседзецца
Быў дома рады,
Каб жа адседзецца?
. . . . . . . . .
Пасля вайны
Прыгнуўся ты
Пад ношаю віны,
Прыслухваўся,
Чакаў,
Што зараз зробяць,
Адкопваў пакрысе
Не толькі дробязь,
За дзве шчакі
Кілбасы закладаў.

Свяціў з нас кожны целам,
Галадаў.
. . . . . . . . . . .
Хоць і цяпер
Я быў такі ж,
Ранейшы,
Ды для цябе
Як быццам стаў раднейшы,
Чым нават сын,

І ты мне, юнаку,
Стаў падаваць руку,
Як дружбаку,

Са мной ніколі
Злосна лоб не хмурыў,
Любіў пагаварыць,
Як «мудры з мудрым».

Такі ўжо жмінда,
Але на мароз
Аднойчы і кажух
Мне свой прынёс.

Гатовы быў
З мяне пылінкі трэсці,
Каб толькі я пра ўсё
Забыў нарэшце,
Ды як забыць, скажыце мне,
Такое?
Яно не забываецца
Ніколі!

. . . . . . . . . . .

Баліць мне,
Дзядзька Лёня і Сцяпане,
Як вы з ім nап'яцёся
І ў бур'яне
Ляжыце побач.
Хто б падумаць
Мог,
Што некалі так зробіць
Чорт ці бог?..

Не чуеце,
Як хмара наплывае,
А ваша ніва
Спелая такая...

. . . . . . . . . . .

Антонаўкамі выспелымі
Сад
Мне слепіць вочы.
І я вельмі рад,
Што ў годзе незабыўным
Сорак пятым
Яго садзіў, зялёны,
Разам з татам.
Якія сакавітыя плады!
Яны мне
І не сніліся тады...

Каштуй, чытач,
І губы не крыві:
У іх і боль
І цэлы свет любві!

## В'ЕТНАМСКІМ СЯБРАМ

Я толькі слова вымаўлю:
В'етнам,
Як зоркі Хошыміна
Ўспыхнуць роем,
З плантацыі зялёнай
Пад Ханоем
Запахне
Успамін,
Нібы банан.

І раніца
жар-птушкаю зары
Заплешчацца
У моры
Ля Дананга,
І прыйдуць да мяне
Па волі мага
Усе мае в'етнамскія сябры!

Закружыцца
Ад шчасця
Галава,
І заспяваем
Песню мы «Лясную»,
І тыя,
Што ў баях
Навек паснулі,
Пачуюць нас
І будуць
Падпяваць...

Гляджу я на сяброў
І ганаруся як!
Нярослыя,
Ды мужнасцю вялікія,
Яны турнулі ўсіх,
Каго не клікалі,
Яны пабілі ўсіх прыблуд,
«ваяк»,—

Было так
І заўсёды будзе так!

Як сувеніры
Дзіўныя ў вітрынах,
На нівах
Самалётаў
збітых
крылы
І бранзалеты
Гусеніц
Ў кустах...

* * *

Не стрымаўся,
А тут яшчэ падпіхнулі.
Усё-такі
Уварваўся,
Усё-такі
кроў і кулі.

Лотас бялюткі гіне...
Полымна
У В'етнаме...
Нядаўна ж, сябры дарагія,

Ля пальмаў
Спяваў я з вамі.

Праўда, мы адчувалі,
Калі ў дружбе рукі сціскалі,—
Гусеніцамі танкаў
Там... скрыгаталі.

Калі мы ад песень святлелі,
Багацелі душою,—
Дык там
Аж чарнелі —
За в'етнамскай мяжою.

Бачылі мы і такое:
Нялёгка далася свабода,
Толькі ніхто і ніколі
Не змог пакарыць народа!

18 лютага 1979 года

## СУСТРЭЧА

Абшчыну Куці амерыканскія цемрашалы поўнасцю спалілі напалмам.

Ці гэта сон,
Ці, можа, што з вачамі?
Ну як мне
Да рэальнасці дайсці?
Няўжо хаджу я сёння
па В'етнаме,
Тым болей —
па правінцыі Куці?!

Яе зямлю
шмат бачыў
на экране,
Здавалася,
згарэла ўся,
Ды вось
Я гавару з в'етнамскімі сябрамі,
І, як агонь,
Гарыць ва мне
іх лёс!

Душою чую,
Як сірэна вые,
Трывожна
гул напалмавы
лаўлю.
Паселішчы,
Як ручайкі жывыя,
Сцякаюцца
імкліва
пад зямлю.

А цемра ж там,
Калі зачыняць люкі!
Ды маладзік надзей
Свяціў як мог.
Халодныя,
аслеплыя гадзюкі
У лёхах
слізгаюць
ля босых ног.

А вораг ужо лупіць,
лупіць,
лупіць...
Зямля прымае

Жудасны цяжар...
Ды,
    як за пазухай у бога,
                                        людзі.
А гнеў рыхтуе
Вам, прыблуды, ўдар.

Агонь заціхне,
І ў адно імгненне
Пачуеш крыкі чаек
                                над вадой...
Народ той
                не паставіш на калені,
Што каранямі
З роднаю зямлёй!

## ПЕСНЯ

*Віктару Чарнабаеву*

Дарма, што мова незнаёма,
Ды вы паслухалі б, калі
Разліўся ў зале «Бацька Нёман»,—
Якія воплескі былі!

Сюды паважнаю персонаї
Мая славутая рака
Ўвайшла са славаю бяссоннай
Па чарадзейству земляка.

Усе пабачылі, як хвалі,
Чарней ад хмараў грамавых,

Шалёных вылюдкаў хавалі
У нетрах
Цёмных і нямых.

Мы доўга рук не разнімалі,
А як паселі за абрус,
Свой першы тост сябры паднялі
За нашу маці-Беларусь!

* * *

Гляджу я
улюбёнымі вачыма.
Святло любові
Ясніцца ярчэй,
Калі ў калысцы
Донечку
Ці сына
Маленькая в'етнамская жанчына
Калыша сэрцам
І святлом вачэй!

Як гэта мудра ўсё
І як нам блізка,
Як дабрынёю
Свеціцца
ўвесь дом!
Планету дайце ёй —
Нібы калыску,
Яна атуліць
ласкай
і цяплом.

## ДРЭВЫ

Я з дзяцінства
люблю дрэвы.
Мусіць, першы,
Хто мяне зразумеў,
Былі яны,
Потым —
маці.

Яны ад куль
Мяне ў вайну засланялі,
Кулачкі мае
расціскалі
Дабрынёю
сунічных
палянак.

І таму па карэнні,
Што перапаўзае дарогу,
Не праехаў ніколі
на возе,
Не прайшоў
ў чаравіках
ці ботах —
Толькі босы...

А тут гэтулькі
іх палягло.
З болем,
З гордасцю думаю:
Напэўна, для ворага
Не былі яны
проста дрэвамі,
Як і нашы
бярозы ды сосны.

## У ГАСЦІНІЦЫ

Вайна,
вайна
ў сандаліках,
абмотках...
Ой, цяжка яе гора пракаўтнуць!
Тут людзі спяць
на вуліцах
і ў лодках
І нечага
на цела
нацягнуць.

Што сніцца ім?
Напэўна,
жменька рысу —
Так луста хлеба
снілася
і нам.
Глыбей
ты ў маё
сэрца
забярыся
І адпачні
ад горкіх
страт,
В'етнам!

Прысні мой край
азёрны
і сунічны,
Бяроз чародку
ля жытнёвых ніў.
Ды раптам
Так ударыў

Дождж трапічны,
Аж я святло
імгненна
запаліў

І, здзіўлены,
убачыў:
Каля шчыліны
Яшчарка
застыла
на сцяне
І востранькімі,
хітрымі вачыма
Нібы пытае:
— Прымеш ты мяне?..

## ЦЫМБАЛЫ

*Аляксандру Лявончыку*

Ля какосавых
Пальмаў,
На пракосах
Напалму;
Каля танкаў падбітых
І разбітых «Фантомаў»;
Каля сёл,
Зруйнаваных
Да апошняга дома;
Ля нявысахлых слёзаў,
Нявінных,
Дзяцiных;

Ля балючых асколкаў
У сэрцы краіны;
Каля хваляў высокіх
І ў ветры,
І ў сонцы
Шалясцелі цымбалы,
Не маўчалі цымбалы.
З іхніх гукаў
Чароўных
Вырасталі нібыта
На руінах харомы
Аж да хмарак блакітных,
І, нябачныя,
Трапяталі хусцінкі,
З воч вясёлых В'етнама
Выціралі слязінкі.

## ПАЭТЫ В'ЕТНАМА

Зямлю гэту
бомбы
так пакапалі,
Што не было дзе
Калыскі паставіць,—
І вырасталі
паэты
ў варонках.

На зямлі гэтай
Столькі было агню,
Што не сачыўся

Ні сонца ўсход
і ні захад,—
І паэты
ў сэрца
агонь убіралі.

На зямлі гэтай
Столькі дыму было
Ад выбухаў гневу,
Што ні туман
і ні хмары вясновыя
Тут не віліся,—
І паэты
дыхалі
горыччу.

На зямлі гэтай
Столькі стогну было,
Што салаўёў не чулася,—
Тады
заспявалі
паэты.

## ТАНЕЦ

*Людміле і Аляксандру Яфрэмавым*

У дзявочым інтэрнаце,
Як іскрынка,
Апякае сэрца
Танец «Журавінка».

З Белай Русі
Дзіўны танец пра каханне
Захапляе і чаруе,
Як світанне.

Заварожаны
Чарнявыя дзяўчаты,
Загарэліся
Агнямі вачаняты.

Узляцелі раптам
Рукі, нібы крылы,—
Ды ці ўбачыш той акоп,
Дзе зараз мілы?!

Вусны цветам маладосці
Уваскрэслі,
Запалалі сокам
Ягады-чарэшні.

Слоў няясных
Гул вулканны са слязою,
Быццам крыкі
Жураўліныя вясною...

## РЫСАВАЕ ПОЛЕ

Што гэта —
Рысавае поле
Ці звычайная забалаць,
Дзе і буйвалы
                    топяцца?

Што гэта —
Рысавае поле
Ці палата дзіцячая,
Дзе жанчыны схіляюцца
Цэлы дзень,
Над адным —
каб пялёнкі змяніць
І азяблыя ножкі адхукаць,
Над другім —
малачком наталіць,
А яшчэ над адным —
па галоўцы пагладзіць?

Што гэта —
Рысавае поле
Ці могілкі,
Бо чаму ж тады
тут хаваюць
нябожчыкаў?

Не!
Гэта ўсё-такі поле!
А што вады
Тут замнога,
Дык гэта ж
Тайфун перабраў,
Залiваючы
ў сэрцы
народа
Напалму
нясцерпны
агонь.

## ЭЦЮД

Дзяўчынка спіць —
закалыхана
Пяшчотнай хваляю,
Што ў лодку б'е,
А маладзік —
бананам
Ля цёплай
ручкі
свеціцца яе...

## РАЗБУРАНЫ ДОМ

Забіты горад.
Яго,
як чалавека,
Пахавалі
І помнікам
паставілі
разбіты
дом...

Ледзь толькі дакрануўся
да цагліны,
Як варухнулася яна,
Нібыта цемя
Чыёйсьці галавы.
О божа!

Не шчыліна,
а рот —
бяззуба,
чарнатой адною
зеўрае,
Штось сіліцца сказаць,
Ды толькі свішча,
Як часам вецер
У страсе
ці ў коміне...

Рукі варушацца,
Цяжкія
і нядошлыя такія,—
І я тады да іх
Сам прыхінуўся,
Адчуўшы раптам,
Як з далоняў іх
Вада мне вочы апякла.
Адразу
Пачуў
Не посвіст ветру я,
А словы,
Убачыў:
Забрана
самалётамі
ўсё неба,
І —
бомбы,
бомбы,
бомбы...
Агонь пякельны.
Кулі.
Цішыня.

# БЛАКІТНЫ БРЫЗ

У адной толькі правінцыі Хюэ абясшкоджана 7 мільёнаў амерыканскіх бомбаў і мін. Пры гэтым загінула 5 тысяч чалавек.

Спёка.
Ажно за трыццаць,
І сонца на спінах —
прасам.
Як жа тут не скарыцца
Жаданню —
купацца разам

У гэтым моры ласкавым
З дарагімі сябрамі.
І дома купацца цікава,
А то —
у В'етнаме!

І я ўжо ўявіў,
Як хваля
Шумна мяне даганяе,
Ледзь з ног не збівае
І тут жа
З галавой накрывае.

Ды хтосьці
Так нечакана
Усіх
без нажа
ледзь не рэжа:
— Не ўдасца
Нам пакупацца:
Замініравана
Узбярэжжа...

— Няўжо няма
хоць сцяжынкі —
Ці ў абход,
Ці прама?
— Учора прабегла дзяўчынка,
А сёння,
вунь, бачыце,
яма...

## ДЗЕЦІ

Радуюся я,
Дзеці В'етнама,
Калі рыдлёўкаю
Размаўляеце вы з зямлёй
Або несяце на далоні,
Як здабытае сонца,
Футбольны мяч.

Радуюся я,
Калі,
быццам ласкавае мора,
Аблашчваеце
Вы маё сэрца
Вачыма
І воклічамі: «Ленсо!» *

Радуюся я,
Калі вы схіляецеся
Над кнігамі
І фартэпіяна,
Спасцігаючы мудрасць
І прыгажосць вякоў...

* Савецкі сябар.

О, гэтыя вочы —
Як золак Радзімы,
Рукі —
каласы
Будучага
ўраджаю,
А сэрцы —
мацерыкі неадкрытыя,
Як мне жудасна
Бачыць вас
На лапах
злачынства твайго,
Амерыка...

## ДЗЯЎЧЫНА З ГОРАДА НАМДЗІНЬ

На дзвюх дзяўчат з ткацкай фабрыкі ў горадзе Намдзінь у сярэднім была скінута адна амерыканская бомба.

Не паходка,
а музыка,
Што світанне нагадвае,
Якое ласкава і юна
Нараджаецца на зямлі.
На макушку пастаў
Гарлачык
з контурам
сіняга шчасця,
Дык ні кропелькі
не расплешча...
І я ўглядаюся ў вочы,
Што вугельчыкамі

Пераліваюцца,
Ноч валасоў
запальвае
Зорку
ў сэрцы маім.
Такіх прыгожых ніколі
На свеце
Яшчэ не бачыў,
Таму з-за свету
Варта ехаць было...
Я слухаю не наслухаюся
Песень яе дзявочых,
А яна ўжо «Кацюшу»
На мове
маёй пяе...
Маленькія,
Слабыя,
Добрыя
Далонькі яе сціскаю,
Што самалёты палілі,
Тапілі
вялізныя
караблі.

## МАЎЗАЛЕЙ ХО ШЫ МІНА

Я ўсё ўздымаюся
і ўздымаюся
па прыступках
І канца
ім не бачу.
Здаецца, прайшла ў памяці
Уся гісторыя В'етнама,

Замешаная
на крыві,
гераізме
і свабодалюбстве народа,—
А прыступкі,
як крылы птушыныя,
мяне ўсё ўздымаюць.
Ды раптам — адкрылася далеч,
І ўбачыў яго я.
Здалося, ён слухае
Голас В'етнама...

## МУЗЕЙ АМЕРЫКАНСКАЙ АГРЭСІІ Ў ХАНОІ

Як амерыканцы ні пнуліся,
Як сілы свае
Ні падцягвалі,
Усю сваю моц абрушвалі
І з неба,
і з мора,
Як ні перакопвалі зямлю,
Ні палілі,
Звярэлі горш за фашыстаў,
Што Хатыні прыдумвалі,—
І ўсё ж
аднаго
толькі
там дамагліся,—
Гэта —
музея
амерыканскай
агрэсіі...
Ворагі В'етнама,
Не забывайце пра гэта!

* * *

Як вочы,
Неба хмаркамі
замглёна.
І кожны раз
па целе
аж мароз:
О колькі абеліскаў
тут,
ля клёнаў,
Ля ціхіх хат
Пад кронамі бяроз.

Святло іх зорак
Льецца на дарогі
І будзіць сэрцы
ўсіх людзей зямлі.

Як горка толькі,
Што да Перамогі
Дайсці
такія хлопцы
не змаглі...

## ГУЛЯЮЦЬ ДЗЕЦІ

— А дзе наш Валодзька, Анька дзе?
— Гуляюць у хаванкі.

Гуляйце, дзеткі мілыя, ў хаванкі,
Шчаслівыя Алёнкі
Ды Іванкі,
Вясёлыя Валодзькі і Сцяпанкі...
Гуляйце,
Мае любыя, ў хаванкі.

Хавайцеся
У зелені,
Каб толькі
Не ад вайны,
Дзе смерць нясуць асколкі,
Не ад варожых танкаў,
Самалётаў,
Шалёнага агню,
Драпежных ботаў.

Гуляйце сабе,
Жмурцеся
Уволю,
Каб толькі не ад жудаснага болю,
Каб толькі
Не ад гора ля матулі,
Якой прынеслі смерць
Фашыстаў кулі...

Хавайцеся
У сонечныя кветкі,
Каб толькі
Вы знаходзіліся,
Дзеткі...

## РОДНАЯ ПЕСНЯ

*Юрыю Семяняку*

Святлеў ад песні
Я часінай рознай,
Прызнанні сэрца чулага шаптаў
Каля зялёных вышак
Вербаў росных,
У шчырым царстве сініх рэк і траў.

Люблю яе, прыветную такую,
Што апячэ,
Як той пары настрой,
Калі зязюля першы раз кукуе —
І ты аж заміраеш перад ёй...

Нібы ручай
З крыніцы невялікай,
Яна па сэрцы коціцца-плыве,
Не лезе ў вочы
І не любіць крыку,
Ды паспрабуй ты не пачуй яе?!

## ШЧАСЦЕ МАЁ

Ці развядзе каліна свой пажар,
Ці першы снег пра чысціню напомніць,
Ці сонца рассыпае летні жар,
Ці вочы веснавы блакіт напоўніць,—

Усё мяне хвалюе зноў і зноў,
Агонь слязы, шчаслівы, я спазнаю:

Радзіма, гэта ты — мая любоў,
Цябе да сэрца блізка так прымаю.

Дзіцячы смех, як першы, светлы снег,
І роднай песні маладзік дзівосны...
А юны вецер весела прабег —
І ў садзе яблык абівае росны.

Я абышоў палеткі шмат разоў,
Рачны прастор, дзе вербы нізка гнуцца,
Набыўся я і ў пошуме лясоў
І ўсё ж хачу ізноў туды вярнуцца!

Усё мяне хвалюе зноў і зноў,
Агонь слязы, шчаслівы, я спазнаю:
Радзіма, гэта ты — мая любоў,
Цябе да сэрца блізка так прымаю.



На лапках зор ідзе ноч над садамі,
Палаюць рос дзівосныя агні.
І вусны роднай песні прыпадаюць
Да гэтай найсвятлейшай цішыні.

У цішыні сны яблыкамі спеюць,
А яблыкі — як залатыя сны.
Зямля не спіць, а сэрцам колас грэе,
І ён, як зорка цёплая, звініць.

Сцяжынка пахне хлебам і дзяцінствам,
Плыве уздоўж любімага сяла...
Дзень заўтрашні у сэрцы залаціцца,
Як на ўсё неба весняя зара!

## ЧЭРВЕНЬ

Баль спраўляюць
у лесе
Вясёлыя птушкі.
Дзе змаглі яны
Гэтулькі песень сабраць!
Аж зямля
Натапырыла
Чуйныя вушкі,
А на іх
завушнічкі-сунічкі
гараць...

## ВЯСНА НА БАЦЬКАЎШЧЫНЕ

Зямля адпусціла,
І вось ужо ранкам
Ля хаты
зялёнаю лужынкай —
траўка.

І неба, і поле
Струменяцца пахам,
Галінка вішнёвая
Гнецца пад шпакам.

І я, нібы сонца,
І гэтая траўка
Ля матчыных вокнаў,
Ля роднага ганка...

На лусты зямлю
Дружна з сынам мы кроім,
З вядзерца-латка
Бульба сыплецца роем...

Здаецца, ўжо бачу:
Пакрыты расою
Бульбоўнік высокі
Устаў над зямлёю.

Яшчэ мы падвяжам
Маліннік ля плота,
Яшчэ нас чакае
У садзе работа,

Яшчэ праваждаемся
Досыць з карчом,
Пакуль на падпалку
Яго пасячом.

А як жа,
Хто ж маці паможа,
Калі?
Я ж вырас тут,
Вырас, як дрэўца,
З зямлі.

Зямлю забяры —
І карэнню не быць...
Званком школьным неба
Ля вуха звініць!

## МАЁЙ БЕЛАРУСІ БЯРОЗКІ

Ля кожнай страхі і дарожкі
Марознай зімой, па вясне
Маёй Беларусі бярозкі...
бярозкі,
Як мілы вы мне!

Вы цяжкую долю спазналі,
І вам не забыцца вайны.
Да самага лесу за намі
Ішлі ў партызаны і вы!

Зямлю дарагую геройскі
Ў агні засланялі грудзьмі.
Маёй Беларусі бярозкі,
Гарэлі вы разам з людзьмі...

## ТЭЛЕГРАМА

Колькі дзён
валіўся
снег
старанна —
Для дзяцей
жаданы
белы рай,—
Мне ж ён —
Як ад маці
Тэлеграма:
Едзь хутчэй
І хату адкапай...

## ДАБРЫНЯ

Калі нас гора прымінае,
Калі бяда нас моцна б'е,—
Заўсёды маці ўспамінаем
І клічам, родную, яе.

Здаецца, ўміг усё асілім,
І стане сонца нам з рукі,—
Яе вачэй дзівосна-сініх
Хай калыхнуцца васількі.

Хай слова матчына на сэрца
Гарачай скоціцца слязой,—
Тады і смерць ужо, здаецца,
Збяжыць у цёмны бор з касой...

Як чалавеку трэба мала...
Як ні пражыць без дабраты...

Таму і клічам цябе, мама,
У цяжкі міг,
І чуеш ты!

## КРОКІ

Па канюшыне
Стукае апад,
А мне здаецца —
Гэта часу крокі.
Я помню,
Як садзілі з бацькам сад
Па дубчыку маленечкім
І крохкім.

Калі ён будзе —
яблык залаты!
Як мы чакалі
Светлай той хвіліны!
Але вось
На падпоры
І платы,
Як рукі ў стоме,
палеглі галіны...

І нашы рукі хочуць адпачыць.
І як шкада,
Што з нас ніхто не знае,
Што гэта ў клуб
Не ўласны сын бяжыць,
А наша маладосць як бы ўцякае...

## НЯЗГОДА

Тут, кажуць,
Будзе возера
І чайкі
Над хвалямі кружыцца будуць снежна.
Туманнай раніцою
Сонны човен
Закіне вуду
Каля рыбнай тросці...
А зараз яшчэ лес тут,
Цёплы,
Чуйны,
Яшчэ гамоняць сосны-ветэраны,
Ды ўжо ўпілося ў іх
клыком падсочкі
Будучае возера.

Трывожыць
Яно мяне,
Бо тут маё дзяцінства,
Маё і многіх
Ад ліхіх чужынцаў
Хавалася
Ля гэтых добрых сосен.

Былі для нас сунічныя палянкі,
Нібы старонкі
Запаветнай кнігі,
Якія мы папоўніцы глыталі
І не маглі надзякавацца лесу.

Тут пачыналі
Рэйды партызаны
І адбівалі ў ворагаў уночы
І студні рып,
І зорку ў родных вокнах,
І нашае вяртанне
ў край дзяцінства...

Зрасліся з лесам мы
Сваім карэннем.
Мы разам галадалі
І калелі,—
Таму, як лес,
Панурыя мы часам,
Таму, як лес,
І добрыя мы сёння.

Дык як жа нам
Без сосен тых,
Скажыце
Усе,
хто возерам рашыў нас цешыць

У краі тым,
Дзе шмат азёр і рэчак,
Дзе нават вецер
Помніць ліхалецце?..

* * *

Дзе калісьці
Балота
Стагнала,
Шумела,—
П'юць камбайны
Жытнёвую
спелую
гладзь,
А за імі
буслы —
Ваяўніча
І смела,
Быццам, страціўшы жаб,
Што ўжо ім
І губляць...

* * *

Маю рачулку выцягнулі ў струнку,
Алешын хмары і вясёлы луг
Папляжыў і счарніў халодны плуг,—
І мне баліць, што ім не даў ратунку.

Я толькі ўспомніў, як было прыгожа,
Рака ў спякоту — гэта ж дзіва-ложа:
Кладзіся на спіну ці на баку,
Крывінкай кожнай адчувай раку.

Было яшчэ балотца, дзе лавілі
Мы за хвасты цяжкіх цецерукоў,
Кашамі выграбалі журавіны,
Знаходзілі пазіцыі грыбоў.

Яшчэ рукою раўнадушнай знішчана
Чароўная мясцінка Галянішчава,
Дзе наскае сярэбранае рэха
Нам сыпала за пазуху арэхі...

Свой боль я не хаваю ад народа,
Яго і не схаваеш: так ляжыць.
Без нашай добрай, ласкавай прыроды
Я не хацеў бы нават дзень пражыць!

* * *

Усім трэба сонца:
І птушкам, каб пець,
Сасне баравой
І суніцам, каб спець,

Дарозе,
Якою ляцяць жураўлі,
Зямлі, каб і колас
І кветка цвілі,

Каб поўніўся
Прагай жыццёвай прастор

Ад нізенькай траўкі
Да яблынь і зор...

Ды з думкі мяне
Ніхто век не саб'е,
Што сонца нішто
У жыцці без цябе!

* * *

А сцежку ў жыце разгайдалі
Расстайных крокаў вестуны —
І апракінулася далеч
Канцамі лопнуўшай струны,

Пры сонцы рынулася цемра,
Рассыпалася шчасця шкло...
Ты, сэрца, гэтага хацела?
Скажы, да гэтага ішло?

* * *

Хтосьці зоркі
Нібы павыкручваў:
Звечарэла,
А дзе ж
Іх святло?

Вецер.
Дождж
над душою

І над кручай,
І сяло як сплыло.

Але хтосьці ідзе, здаецца?
Рукі.
Вусны.
І дотык пляча...

І не трэба святла,
Бо ў сэрцы
Столькі сонца,
Аж светла ў вачах!

## БУДЗЕШ ТЫ ВІНАВАТА

У зязюльчына ранне,
На сваё, можа, ліха,
Да цябе я пастукаўся
Ціхенька-ціха,

Але ты не пачула,
Ці мне толькі здалося?
І паплыў ад мяне
Востры серп між калосся.

І тады я рашыўся
Да цябе, маёй мілай,
У акенца пастукаць
З трошкі большаю сілай,—

Зноўку ты не пачула,
Дык без лішняй гаворкі,

Да цябе я пастукаўся
Ўсім жыццём сваім горкім:

Затрашчалі дубы.
Пахіснулася хата...
Ведай, будзеш ва ўсім
Ты адна вінавата!

## ПЕСНЯ
## АБ РОДНАЙ ЗЯМЛІ

Навальніцамі
Лозы ніцыя
Прытуляюцца да зямлі,
Дзе і мы з табой
Пад крынічныя
Звоны сінія
Узраслі.

Ледзь з калыскі мы —
Сталі блізкімі
Нам лясы партызанскіх гадоў,
Светлай ластаўкай
Тут, пад ліпамі,
Узляцела і наша любоў.

Ой, зямля мая,
Тая самая
Заінелая на зары.
Рэчка сонная...
Сцежка санная...
Нібы з печы жар, снегіры...

І марозамі,
І бярозамі
Я прывязаны да цябе,
Я табой, зямля,
Заварожаны
І належу адзінай табе!

## ЗМЕСТ



### Свет любові



### В'етнамская балада

## Усім трэба сонца

**Карызна Ул.**

К27 Цішыня баразны: Вершы і паэма.— Мн.: Маст. літ., 1981.— 79 с., іл.

35 к.

Прыгажосць роднай зямлі і трывога за свет чалавечай душы — галоўны прадмет лірычнага роздуму паэта. У кнігу ўвайшлі таксама паэма «Карэнні болю» і цыкл вершаў пра гераічны В'етнам, адзначаны прэміяй часопіса «Полымя».

К $\frac{70403-069}{М 302(05)-81}$ 46—81

ББК 84 Бел 7

Бел 2

---

Владимир Иванович Каризна

ТИШИНА БОРОЗДЫ

Стихи и поэма

Минск, издательство «Мастацкая літаратура»

На белорусском языке

Рэдактар Р. М. Яўсееў. Мастак Ул. А. Смятанін. Мастацкі рэдактар А. М. Малышава. Тэхнічны рэдактар Г. Г. Федарук. Карэктар Л. М. Вайцяшэня.

ІБ № 1207

Здадзена ў набор 09.03.81. Падп. да друку 06.04.81. АТ 07546. Фармат 70×90¹/₃₂. Папера друк. № 1. Гарнітура звычайная новая. Высокі друк. Ум. друк арк. 2,92. Ул.-выд. арк. 3,29. Тыраж 6000 экз. Зак. 1441. Цана 35 к.

Выдавецтва «Мастацкая літаратура» Дзяржаўнага камітэта БССР па справах выдавецтваў, паліграфіі і кніжнага гандлю. 220600, Мінск, праспект Машэрава, 11.

Паліграфічны камбінат імя Я. Коласа. 220005, Мінск, Чырвоная, 23.

